№ 60 Ausgabe B.

# ГОМАН

Цэна с перэсылкай і дастаукай да хаты: на 1 год—4 м. 80 фэн., на ½ году—2 м. 40 ф., на 3 месяцы — 1 м. 20 ф., на 1 мес. — 40 фэн.

Беларуская Віленская часопісь
выходзіць два разы у тыдзень: у аўторкі і пятніцы.

Адрэс рэдакціі: Вільня, Завальная 7.
Адрэс адміністрацііі і экспэдыціі: М. Стэфанская 23.

Цэна абвестак: на 4-ай старане за радок дробнымі літэрамі — 25 фэніг.; дробные абвесткі— па 5 фэн за слова. Абвесткі аб сьмерці — 60 фэн. за лінейку дробн. друкам.

№ 60 (152). Год II. Вільня, 27 ліпня 1917 г. Цэна 5 фэн. (3 кап.).

## Галічына ачышчэна.

### 26 ліпня.

**Заходні тэатр:**

*Фронт Рупрэхта Баварскаго*: З нязменнай сілай, даходзячы момэнтамі да барабаннаго агня, трывала далей артылерыйская бітва між узбярэжжэм і Ліс. З разсьветам яна ізноў дайшла найвялікшай сілы.

У Артуа артылерыйская бітва каля Ленс'у. Пры Монші мы здабылі важны акоп.

*Фронт нямецкаго Насьледніка*: У вечары заходня-прускіе палкі здабылі штурмам францускіе пазыціі на поўдні ад Ай на шырыні 1800 мэтроў і у глыб на 400 м. Сягоньня мы адабралі ў ворагоў часць горнаго хрыбта на паўночным заходзі ад хутара Іртбіз. У Шампані пры высокай гарэ адабраны астаўшыеся ешчэ ў руках французоў ад 14 ліпня ваколіцы. Контратакі на ўсіх трох пунктах адбіты без астатку. Узято ўсяго 1150 палонных, у тым ліку 46 афіцэроў, і багата аружжа.

**Усходні тэатр:**

*Фронт Леопольда Баварскаго*: Група войск Эйхгорна:

На поўдні ад Смаргоні агонь артылеры паменшыў ранейшую здабычу расейцоў. Ворагі адыйшлі назад. Блізка ўся ранейшая пазыція ізноў у нашых руках.

Група войск Бэм-Эрмолі:

У вострых бітвах нашы дывізіі здабылі вяршыны на паўночным заходзі ад Тарнополя і адрэзак Гнізны да дарогі Трэмбовля-Гусятынь. Бучач, Тлумач, Отынья і Дэлятынь узяты.

*Фронт эрц-гэрцога Іозэфа*: Расейскі фронт вагаецца і на поўдні ад Татарскаго праходу. Ворагі адыходзяць на Чэрнёўцы. Учора ўзяты штурмам вяршыны Баба Людова.

*Фронт фэльдмаршалка Макензэна*: Ад раніцы да цёмнаго артылерыйская бітва па ніжнім цячэньні Сэрэта.

---

ШТОКГОЛЬМ. Як даносіць „Новая Жізнь“, быўшый цар з вялікай цікавасьцю сочыць за прыпадкамі ў Галічыне. Даведаўшыся аб бунце расейскіх войск ля Злочова і Тарнополя, ён сказаў, што адна толькі бытнасць яго між войскам зрабіла бы тое, што яно дало-бы адпор.

ШТОКГОЛЬМ. Апошніе весткі с Кронштадту прыйшлі сюды з 18 ліпня. Паводлуг іх, крэпасць адрэзана ад тэлефонных і тэлеграфных зносін з імперыей.

Кіеўскі гарнізон заявіў, што ён стаіць за большэвікоў.

ГААГА. Як даносіць с Пецярбурга «Daily Telegr». урад сперша маніўся выступіць проці сэпаратызму Фінляндзіі і Украіны, але с прычыны апошніх прыпадкоў быў прымушэн звярнуць усю сваю ўвагу на падвоз прадуктоў для арміі і на утрыманьне ладу ў вялікіх местох і прамышленых цэнтрах.

ЛОНДОН «Morning Post» даносіць с Пецярбурга, што прыказам па арміі Керэнскій выдаліў 9 гэнэралоў с палудзеннаго фронту і аддаў іх пад ваенны суд.

«Daily News» пішэ, што XI і VII расейскіе арміі за сваю палахлівасць перад ворагамі выкасованы са спісоў расейскіх армій і іх палкі далучэны да іншых армій.

У Пецярбурзі на востраві узняліся новые бітвы на вуліцах. Другі артылерыйскі полк абстрэліваў ваенные склады на остраві.

ПАРЫЖ «Petit Journal» даносіць:

Бэрдычэў, Кішынёў і Кіеў абяўлены на асадным палажэньні.

ШТОКГОЛЬМ. Пецярбурская рада раб. і салд. пратэстуе проці загаду Керэнскаго арэштаваць Леніна, Каменёва, Зінов'ева і Казлоўскаго. Сперша большая часць рады паддзержывала ўрад проці большэвікоў, але цяпер баіцца, што арэшты выдатных бельшэвікоў, партыя каторых у радзі вельмі чысьлена, паменшаць павагу рады ў старане. Рада не мае ўжо даўнейшай уласьці над тымчасовым урадам.

ШТОКГОЛЬМ. Б. глаўнакамандуючый XI арміі, Гутор, як пішэ „День“, намыкаўся павесіцца, але ў апошні момэнт яму прашкодзілі і памясьцілі яго ў бальніцу.

БАЗЭЛЬ. Трэйцяе рэволюцыйнае міністэрство ў Расеі, паводлуг агенцтва Радіо, складаецца з гэткіх асоб: Керэнскій—міністэр-прэзыдэнт, Некрасов — памочнік яго, Тэрэшчэнко — міністэр унутрэных спраў, почт і тэлеграфоў, Пешэхонов — кантралер спажыўных спраў, Чэрнов—міністэр сельскай гаспадаркі, Скобелев—ваенны, Владзімір Львов—обэр-пракурор сыноду, Годров (?)—гасударствены кантралер, Дэфэнзов—міністэр судоў і Барышнікоў—грамадзкай дабрачыннасьці. Два апошніе—прогрэсісты, члены Думы. Яны замянілі кадэтоў. Міністэр фінансоў ешчэ не назначэн.

## Расейская проблема.

Пад той час, як Фінляндзія, Украіна, Крым аб'яўляюць сябе незалежнымі, як закордонная Беларусь на сваім нацыональным з'ездзі ў Мінску зажадала для сябе поўнай аўтономіі ў межах фэдэрацыйнай дэмократычнай і рэспубліканскай расейскай дзержавы, як цэлы рад мест выступіў с падобнымі ж дамаганьнямі незалежнасьці, — у кіраўнічых палітычных кругах рэволюцыйнай Расеі пачынае ўсё ярчэй выяўляцца кірунак, каторы мае зусім іншую мэту. Цэнтралізм і маскоўскі імпэрыалізм—гэтае пракляцьце старой самадзержаўнай Расеі — ня счэзьлі разам з упадкам царскай уласьці: яны яшчэ крэпка сідзяць у галовах вялікай часьці расейскіх палітыкоў і расейскаго грамадзянства. На гэтым грунці узняўся ўжо раскол у тымчасовым расейскім правіцельстве: міністры-кадэты, прэдстаўнікі лібэральнай, але заўсёды нацыоналістычнай буржуазіі, павыходзілі у адстаўку с прычыны таго, што ў справе прызнаньня ўжо цяпер, не чэкаючы установчаго сэйму, аўтономіі украіны пэрэважылі соцыалісты, прыстаўшые на тое, каб Украіна сама паводлуг сваей думкі ладзіла сваё жыцьцё.

Гэта была пабеда ідэі фэдэралізму. Фінляндзія і Украіна будуюць сваё новае жыцьцё сваімі рукамі, не дажыдаючы, каб ім даў аўтономію будучый установчый сэйм. Трэба думаць, што па гэтай дарозі пойдуць і другіе краі расейскай дзержавы, і ў той час, як збярэцца агульна-расейская конституанта (установчы сэйм), новы лад у нерасейскіх краёх Расеі павінен быць ужо заведзен.

Патрэба такой развязкі нацыональнаго пытаньня ў расейскай дзержаве будзе ясна для кожнаго, калі прыпомнім, што расейская буржуазія мае вялікую сілу і пастараецца выкарыстаць яе ў поўнай меры цэля таго, каб пры будаваньні „новай Разеі“ правясьці свой ідэал дзержаўнасьці маскоўскаго народу,—ідэал, паводлуг катораго вялікарусы асталіся бы поўнымі гаспадарамі ў рожнаплямённай. Расеі. Аб гэтым пачынае ўжо зусім адкрыта пісаць расейская прэсса.

„Не лянівы украінец, не апатычны беларус, а бойкі і рухавы вялікарус павінен быць будаўнічым расейскай дзержавы“—пісала гэтымі днямі маскоўская газэта вядомаго здаўна нацыоналістычнаго кірунку „Московскіе Ведомості“. А чы не ў тон ей гаворaць лібэральные кадэты, каторые свой цэнтралізм і імпэрыалізм прыкрываюць толькі пекнымі славамі аб „супольным будаўніцтве“ на установчым сэйме, на каторым вялікарусы, само сабой, будуць пэрэважываць?..

Развязка пытаньня: якая будзе новая Расея, залежыць перш за ўсё ад таго, чы да установчаго сэйму народы яе нерасейскай нацыональнасьці здалеюць гэтак добра організавацца, што цэнтралізм і імпэрыалізм маскоўскай буржуазіі не здалее вырваць у іх здабытую волю.

*І. Мелешка.*

---

## Унівэрсал Украінскай Цэнтральнай Рады.

*„Да украінскаго народу на Украіне і за межамі Украіны“.*

На кіеўскім агульна-украінскім ваенным з'езьдзі быў прачытан унівэрсал Украінскай Цэнтральнай Рады пад паказаным вышэй загалоўкам. Унівэрсал гэты перш за ўсё высказывае жаданьня украінскаго народу ў гэткіх словах:

„Ніхай будзе Украіна вольна, не аддзеляючыся ад усей Расеі, не адрываючыся ад дзержавы расейскай. Ніхай украінскі народ на сваей зямлі мае право сам кіраваць сваім жыцьцём. Ніхай лад і устройство Украіне дасць усенародны украінскі сэйм, выбраны агульнай, роўнай, безпасрэднай і тайнай падачай галасоў. Усе законы, паводлуг каторых павінен быць заведзен гэты лад тут у нас, на Украіне, мае право выдаць толькі украінскі сэйм. Тые-ж законы, якіе маюць вытварыць організацію ўсяе расейскай дзержавы, павінен выдаваць усерасейскі парлямэнт... Мы жадаемо, каб пасьля конфіскаціі па ўсей Расеі дворных, казённых, царскіх, манастырскіх і іншых зямель на ўласнасць народаў і пасьля прыняцьця закона аб гэтым на ўсерасейскім установчым сэйме право распарадку нашымі украінскімі землямі і карыстаньня імі прыналежало-бы нам самым, нашаму украінскаму сэйму“.

Паводлуг гэтаго Украінская Цэнтральная Рада і паслала ў Пецярбург да тымчасоваго ўраду сваіх паслоў, каторые падалі тамака гэткіе жаданьня Рады:

„1. Каб расейскі ўрад публічна, асобным актам, заявіў, што ён не йдзе супроць нацыональнай волі Украіны, супроць права нашаго народу на аўтономію.

„2. Каб цэнтральны расейскі ўрад дзеля ўсіх спраў, якіе датыкаюцца Украіны, меў бы пры сабе

нашаго камісара дзеля украінскіх спраў.

„3. Каб мейсцовая ўласць на Украіне была бы аддадзена ў рукі выбранаго украінцамі і запьверджэнаго расейскім урадам камісара.

„4. Каб асобная часць грошы, якіе збіраюцца з нашаго народу ў цэнтральную казну, была аддадзена нам, прэдстаўнікам гэтаго народу, на нацыянальна-культурные патрэбы яго.“

„Усе гэтые жаданьня, — чытаем далей у універсалі, — тымчасовае правіцельство адкінуло.

„Цяпер, украінскі народзе, мы прымушэны самі стварыць сваю долю. Мы ня можэмо прыстаць на тое, каб наша бацькаўшчына ўпала і пагібла. Калі тымчасовы ўрад ня хочэ ўзяцца за вялікую работу разам з намі, дык мы павінны самі ўзяцца за яе“.

Пасьля такога становучаго выступленьня украінскай цэнтральнай рады, паддзержанаго, як вядома, ваенным з'ездам у Кіеві, пасьля перэгавораў расейскіх міністроў с цэнтральнай радай, расейскі ўрад уступіў: як мы ўжо пісалі, генэральны камісар для Украіны ўжо назначэн, і гэтым актам тымчасовае правіцельство прызнало аўтономію Украіны.

## Перадгістарычные знаходы у Беларусі.

Капаючы акопы на Бярэзіне знайшлі вельмі многа перадгістарычных памятнікоў, і ў кругах спэцыялістоў яны маюць спэцыальнае імя «бярэзінскіе знаходы». Значэньне іх у тым, што яны высьняюць шмат такога, чаго дагэтуль высьніць не ўдавалося. Першые знаходы на Бярэзіне адносяцца да першаго каменнаго пэрыоду. Было знойдзено вельмі многа розных прылад, зробленых с каменьня, ды астаткоў будоўлі на палях. Гэтак пацьверджаецца думка, што на берагох Бярэзіны некалі пасяліліся первабытные людзі, занімаўшыеся паляўніцтвам.

На глыбіні 1 мэтра, на граніцы песчанаго і балоцістаго грунту, знайшлі дрэўляные палі да 15 цэнтымэтроў, каторые былі ўжыты дзеля будовы маста, які вёў у сялібу на палях. На куску косьці знайшлі вырэзаны рысунак мамантa дзіўна артыстычнай работы і зроблены вельмі падобна. Гэта даводзіць, што зачаткі артызму у чэлавека даходзяць пячэрнаго пэрыода. Там жэ адкрылі сілы дзеля лоўлі дзічыны: гэта—яма, на 2 мэтры шырокая, 2 мэтры глыбокая і ад 4 да 5 м. доўгая. Туды, як відаць, заганялі вялікаго і небаспечнаго зьвера, марылі яго галадам і аслабеўшаго дабівалі, бо адкрыта бароцца з ім тагочасны чэлавек ня меў чым. Гэтак бачым тут першые зачаткі лёгічнай мысьлі. Аднак, найбольш цікавасьці вызывае знойдзены пад пластом глебы чэлавечы шкілет, пахаронены тут паводлуг обычаю. У аднэй руцэ ў яго каменны клін, каторы паказвае, што ён такі самы стары, як шкілет Нэандэрталя. Шкілет послан у перадгістарычную сэмінарыю ў Бэрлін. Шкілет паказвае, што ўжо 20.000 гадоў таму назад людзі жылі па ўсей Эуропе.

Раскопкі на берагох Бярэзіны ў часі вайны пэўне развяжуць і іншые цікавые пытаньня.

## У Вільні і ваколіцах.

× **Беларуская Народная Страўня** пры сьв. Юрскім пр. 22 ад часу свайго адкрыцьця, 6 ліпня, да 22 ліпня выдала 13.847 абедоў, у тым ліку 1266 абедоў дармовых.

Платные абеды сперша выдаваліся па 10 фэн. порція, але пасьля, як і ва ўсіх віленскіх народных страўнях, цэна была павялічэна да 14 фэн.

Дзенная выдача—1000 абедоў.

× **У Беларускім Клюбе** ў суботу і нядзелю — чародные вечарынкі.

× **Мітынг памяці Гэрцэля.** 19 ліпня ў памяшчэньні Цырку адбыўся вялікі мітынг у памяць 13-ай гадаўшчыны сьмерці галавы сыоністоў, д-ра Гэрцэля. Цырк быў перапоўнен публікай. Мітынг адкрыў д-р Віршубскі, каторы гаварыў аб значэньні працы д-ра Гэрцэля. Чародны прамоўца, Цітрон, падробна апісаў палажэньне жыдоў у мінуўшые гады, калі ешчэ ішлі споркі аб тое, чы трэба прызнаваць жыдоў за асобную націю. Д-р Гэрцэль, аднак, не сумлеваўся ў гэтым: ён падаў свой громкі голас за тое, каб „жыдоўскі народ меў сваю зямлю“. Адвакат Розэнбаўм адзначыў, што прароцтва Гэрцэля спаўнаюцца: народы ваююць цяпер у імя справядлівасьці, і ў імя справядлівасьці жыдоўскаму народу павінно быць дадзено право аседласьці ў Палестыне. Л. Слонімскі назваў Гэрцэля у сваей прамове «каралём без кароны».

Наагул, мітынг зрабіў добрае ўражэньне, зусім здаволіўшы сабраўшыхся на яго. (М. С.).

× **Новые страўні.** Жыдоўскіе коопэратывы за апошніе дні адкрылі 13 новых стравень.

× **Саюз прыказчыкоў.** 23 ліпня на агульным сходзі быў прачытан даклад аб чыннасьці саюза за мінулый год. У многіх прыпадках саюзу ўдалося дабіцца павялічэньня платы для сваіх членоў. Цяпер саюз аказвае помач 200 членам сваім.

× **Скорая помач** ад 16 да 22 ліпня дадзена ў 73 прыпадках. Карэтка выежджала ў 43 прыпадках.

× **Помач у распусьце.** Міравы суд на апошнім заседаньні у 6 прыпадках засудзіў у вастрог вінаватых у помачы ў распусьце.

× **Украдзеные ліхтары.** Крымінальная паліція, ДомінІканская 1, пакой 89, адабрала у аднаго чэлавека 4 артыстычные ліхтары, як відаць, украдзеные.

× **Тэмпэратура.** Найвышэйшая і найніжэйшая тэмпэратура за апошніе дні была (па Цэльсію):

| | найвыш | найніж. |
|---|---|---|
| 22—23 | + 20° | + 12,5° |
| 23—24 | + 20° | + 10° |
| 24—25 | + 15° | + 10° |

## З усяго Краю.

КРЭВО. Крэво, гдзе цяпер ішлі вельмі упорные бітвы, гэта адно са старых умацаваных мейсц, каторае ў В. Князьстве Літоўскім служыло за форт проці напасьці татароў. Стары замак у Крэве дагэтуль лічыўся гасударственым меньнем. Замак стаіць не ў самым мястэчку, а на ўсходнім краю яго. Ад поўначы натуральную зашчыту замка становіць рэчка—прыток Бярэзіны, ад палудня — невялікае возеро, а на ўсход і на заход цягнецца балоцістая раўніна. Замак пабудован с цэглы; вышыня сьцен яго — 20 стоп, абшар — 140 крокаў на 100. Ольгерд выбраў гэты замак на жыцьцё, але ў 1345 гаду перэбраўся ў Вільню і пакінуў замак брату свайму, Кейстуту. У 1381 гаду малады літоўскі князь Ягайла адступіў літоўскі трон свайму дзядзьцы Кейстуту, а сам паехаў у Крэво. Пазьней Кейстут быў пасаджэн у лёх у Крэўскім замку, і тут на пятую ноч яго задушылі. Сын Кейстута, Вітаўт, быў тут нейкі час у вязьніцы, але яму ўдалося ўцячы адгэтуль да крыжакоў. У 1385 г. князем крэўскім стаўся Вігунд, брат Ягайлы, а пасьля яго сьмерці ў 1391 гаду Крэво назаўсёды было прылучэно да Літвы. У 1506 гаду мястэчко і замак у Крэве разграмілі татары.

СМАРГОНЬ. Гэтае мястэчко, дзе цяпер гэтак шчодра ліецца кроў, належало ў XVI сталецьці да роду Зеновічоў, а пасьля, праз жаніцьбу, перайшло да роду Радзівіллоў. Смаргонь заўсёды славілася, як мейсцо, дзе вучылі мядзьведзёў, і яе называлі жартуючы «мядзьвежай акадэміей».

БЕЛЬСК. У тутэйшым павеці паявілося многа вельмі спрытна падробленых двохмарковак. На іх нехватае толькі воднаго (празрыстаго) знаку.

ГРОДНЯ. Чысьленые просьбы аб пазваленьне адкрыцьця пекарні ня будуць разгледацца, бо надалей новых пекарняў ня будзе пазволено адкрываць.

ГРОДНЯ. На лесьвіцы дому пры Садовай вул. № 5 знайшлі пакінутае дзіця, каторае аддадзено у хрысьціянскую ахронку. Аб матцы нічога невядома.

ПАЛЕМОНЕ, Віжэйнскаго пав. Адна тутэйшая селянка ад неасьцярожнасьці з агнём у печы падпаліла свой дод, апрыч катораго згарэлі два хлявы і гумно са спажыўнымі прадуктамі. За сваю неасьцярожнасць кабета ня толькі мела многа шкоды, але яе яшчэ засудзілі на месяц у вастрог.

СУВАЛКІ. З адным тутэйшым жыхаром здарыўся пацешны прыпадак. Ён купіў у суседняй вёсцы некалькі качэк, прынёс іх у мяху ў хату і выпусьціў на падворак. Цэнные птушкі замахалі крыльлямі, узняліся на наветрэ і паляцелі. Выявілося, што гэта былі дзікіе качкі. Прадавец знайшоў іх ешчэ неаперыўшыхся, узгадаваў у хаці і прадаў за вялікіе грошы.

ЛІБАВА. 175 дзяцей народных школ высланы на лето на вёску. Яны па адным ці па двое жывуць па дварох, у пастароў і ў хуторох. Апрыч таго 250 вучнёў народных школ пайшлі на работы ў полі.

# Выпісы з беларускай літэратуры.

## Аддзел I.

### Пробкі літэратурнай мовы XIII—XIX сталецьця.

#### З'езд манархоў і князёў у Луцку у Вітоўта.

И будучы король Ягойло у Витолта у Вильне и почнет' мовити брату своему князю великому Витолту: Милы брате!—я чоловек летни, не вем был вже плод мел; про то ражу тебе, абысь слал до цесара и о то бысь слал, штобы еси мог королем быти и я тобе хочу допомочы у цесара и в папежа. I князь великий Витолд рекл: I как же бых я мог к тому прыйти, коли цесара не знаю, ани он мене; а однакож хочу так вчынити, бы ми на то положыт' великий наклад; и цесара и иншых панов хрыстиянских хочу в себе мети в Луцку. I королю Ягойлу то ся подобало, и радил, абы так вчынил, а потом короля Ягойла з великою честию а даровавшы многоценными дары отпўстил до Польски, а сам к тому ся наготовал, как бы цесара и тых панов хрыстиянских в собе мети и чым падняти.

И будучы на другую зиму послал послов своих до цесара хрыстиянского и до короля дуньского и до княжат поморских и до княжат слезских и немецких и до зятя своего вел. кн. московского и до княза вел. Тверского и до воеводы волоского, и до иншых панов хрыстиянских, жедаючы абы в него были. Гдеж цесар хрыстиянски на тот час будучы и королем угорским и ческим, Жыгмонт, у Витолда был и король польски Ягойло, брат Витолтов, и король дунски, и цар перекопски и вел. князь Резанский и в. кн. Московский, зят' Витолтов, и князь вел. Тверский Борыс Александрович, и мистр пруски и лифляндски и князь Одоевски, и Перемышльски, и Новосельские и воевода волоски и послы великие од Іоана Палеолога цара греческого, и княже мазовецкое и иншых княжат и панов хрыстиянских и розмаитых гостей много.

I коли тые гости у вел. кн. Витолта были и в. кн. Витолт достаток давал им велики и выхожывало на них оброков на кожды день меду сыченого сем сот бочок окром мушкатель, и вин и малмазей, и иншых питей розмаитых; а яловиц сем сот, баранов, вепров сем сот, жубрей по шестдзесят, лосей по сто, кром иншых розмаитых зверын и иншых многих мяс и домовых потреб. I держал тых гостей в. кн. Витолт в себе сем недель. I видечы то цесар по Витолте, иж такую им учту великую чынил и достаток великий давал и к тому богатство его великое и сам цесар рекл до Витолта: „Княже велики Витолте! бачым по тобе, иж ты княже богатое и великое, а к тому новы хрестиянин, и годится, бы тобе быт' паном корунованым, и межы нами короли хрестиянскими быт' братом“. И князь велики, услышавшы то от цесара, абы на тое цесар стал, и коруну ему прызволил мет', и до отца сьвятого папежа, штобы послал, абы посвятившы коруну Витолту дал. I цесар к тому прызволил, и того-ж часу отправил послов своих до папежа, жедаючы от отца святого папежа абы коруну Витолту подлуг обычая хрестиянскаго дал. И велики князь Витолт пры том посьле цесарском отправил своего посла до Рыма, до отца Папежа з посельством своим и теж з листы королев хрестиянских, пана Семена Дедиголдовича и пана Шедибора, брата Кезгайловича.

А потом в. кн. Витолт цесарей и всих тых гостей, которые на тым з'езде были, даровавшы знакомитыми и многоценными дары и одпустил. Где-ж межы иншыми дары в. кн. Витолт даровал цесара рогом великим тур'им, того тура, што в. кн. Гедымин вбил на горе у Вильни, которую тепер зовут' тур'ею горою. I после того в. кн. Витолт жыл тры годы и спросил до себе короля Ягойла в ло-

ЛІБАВА. Гэтымі днямі сюды прыежджаў агледаць место прэзыдэнт вольнага дзержаўнага места Гамбурга, Шрэдэр.

ВІНДАВА. 18 ліпня мінулі два гады ад часу заняцьця Віндавы немцамі. Толькі восмая частка жыхароў мірнага часу асталася ў горадзі перад прыходам немцоў. Адступаючы, расейцы паўзрывалі ў порце ўсё, што магло быць карысным немцам, ды гэтак прычынілі месту страты на 17 міль'ёнаў руб.

# ВЕСТКІ З РАСЕІ.

ПЕЦЯРБУРГ. Салдацкі камітэт разбітай XI арміі паслаў сюды праз тэлеграф бяз дроту гэткую тэлеграму:

Ваеннаму міністру.

Тымчасоваму ураду.

Цэнтральнаму камітэту рады раб. і салд.

Спаўніцельнаму камітэту рады селян.

Вярхоўнаму глаўнакамандуючаму:

Нямецкае наступленьне, катораe пачалося на фронці XI арміі, развіваецца у страшэнную катастрофу, каторая можэ згубіць рэволюцыйную Расею. Аб прызнаваньні ўласьці і дысцыпліне німа ўжо гутаркі. На намовы адказываюць грозьбамі і нават забойствамі. За фронтам цягнуцца колонны дэзэртэроў без аружжа, бяз сораму, с паўнай верай у безкарнасць. Мы лічым канечне патрэбным ужыць крайніх спосабоў дзеля ратунку рэволюціі. Сягоньня глаўнакамандуючый палудзеннa-заходнім фронтам і начальнік XI арміі у згодзі з намі загадалі стрэляць у дэзэртэроў. Ніхай уся старонка павнае праўду аб тым, што робіцца; ніхай уздрыгнецца і станоўча кінецца на тых, хто маладушна губіць рэволюцію".

ПЕЦЯРБУРГ. (П.Т.А.). Керэнскій, вярнуўшыся с фронту, сказаў журналістам:

„Цяпер глаўная задача—гэта еднасць уласьці. Тымчасовы ўрад мае на мэці толькі защчыту гасударства ад анархістоў і дабрабыт арміі. Урад будзе апірацца на давер'і народу і арміі, каб выратаваць Расею і яе еднасць крывёй і жалезам, калі дзеля гэтага ня хопіць чэсьці і сумленьня. У гэты момэнт трэба стрымаць адступленьне, палажыць канец экономічнай анархіі і ўпарадкаваць фінансы. Палажэньне на фронці — вельмі цяжкое і вымагае гэроічных крокаў. Урад энэргічнымі крокамі паложыць канец праступнай рабоці і ўдачам здрайцоў".

ШТОКГОЛЬМ. Паводлуг прыватных вестак с Пецярбурга. Керэнскій вельмі разстроен. Настраеньне яго зменяецца з вельмі павышэнага на зусім упаўшае. То ён называе сябе расейскім Наполеонам, то кажэ, што ён і Расея пагіблі.

ПЕЦЯРБУРГ (П.Т.А.). На супольным заседаньні спаўніцельнаго камітэту рады раб. і салд. і селянскай рады а 4 гадз. раніцай прынята гэткая рэзолюція:

„С прычыны палажэньня на фронці і у самай Расеі мы прызнаём: 1. Край і рэволюція—ў небаспечнасьці; 2. Тымчасовы ўрад прызнаецца за правіцельство дзеля ратунку рэволюціі; 3. Ураду даюцца неагранічэные паўнамочча, каб вярнуць організацію і дысцыпліну у арміі, бароцца с контрэволюцией і анархіей і правясьці ў жыцьцё праграму правіцельства".

Рэзолюція прынята 252 галасамі. Большэвікі, чыслом 47, адмовіліся падаць голас.

БАЗЭЛЬ. «Corr. d. Sera» даносіць, што ў Пецярбурзе, Мінску і Кронштаці аб'яўлено ваеннае палажэньне. Многа цывільных асоб і ваенных, прынімаўшых учасьце ў апошнім паўстаньні, арэштованы і аддадзены пад ваенны суд.

Рада раб. і салд. пад націскам грамадзянства ўпаўнамочыла судовые установы і ўласьці выступіць проці староннікоў Леніна.

У Ніжнім Ноўгарадзі узняліся сур'ёзные разрухі. Рада раб. і салд. выратавалася ўцёкшы. Часць социалістычнай расейскай прэссы дамагаецца выдаленьня з рады раб. і салд. староннікоў Леніна.

„Біржж. Вед." даносяць с фронту, што дэпутаты Прэображэнцоў і другіх палкоў высказалі жаданьне, каб Керэнскаму былі дадзены неагранічэные правы.

ЦУРЫХ. С Пецярбурга даносяць: Ленін і некольні яго прыхільнікоў арэштованы.

Социал - рэволюцыонеры адмовіліся выбраць Керэнскаго ў партыйны камітэт.

ПАРЫЖ. «Petit Parisien» даносіць с Пецярбурга:

Міністры-социалісты падалі сваім таварышам ультіматум, трэбуючы аб'яўленьня рэспублікі, належных крокаў дзеля барацьбы с контррэволюцией і адстаўкі верных старому ладу гэнэралоў.

Шмат у якіх дамох пры обысках знойдзены кулемёты, с каторых стрэлялі ў войско.

Пецярбурскіе газэты даносяць, што Ленін сваей ахвотай аддаўся ў рукі судовай уласьці.

Паводлуг «Нов. Вр.», у Пецярбурзі собрано 60.000 рознародных войск.

Прынятая фінляндзкім сэймам рэзолюція аб незалежнасьці Фінляндзіі послана расейскаму ўраду, але не дзеля пацьвэрджэньня, а толькі для яго ведама.

Фінляндзія гатова пазычыць Расеі 200.000 000 у замену за 65.000.000 кілёгр. жыта.

Вядомаго гэнэрала Рэннэнкампфа, каторы сідзіць у Петрапаўлаўскай крэпасьці, вінавацяць, між іншым, і ў тым, што ён, быўшы ў Усходніх Прусах, рабаваў тамака прыватнае меньне.

У Гэльсінгфорсі—новая забастоўка паліціі. Забастоўка наборшчыкоў трывае далей.

КОПЭНГАГА. С Пецярбурга даносяць, што апошніе здарэньня. вызваўшые бунты цэлых палкоў, падняli тут страшэннае абурэньне. Аднак, прарыў фронту тлумачаць ня гэтулькі віной салдатоў, як недахваткай амуніціі. Асабліва абурэны на бязчыннасць заходніх саюзьнікоў, каторые нічога ня робяць, каб адцягнуць нямецкіе сілы з Усходу.

ПАРЫЖ. Газэты даносяць с Пецярбурга:

Анархісты і бунтаўшчыкі занімаюць ешчэ рад пецярбурскіх кварталоў. Верные ураду войскі паддзержываюць лад артылерыйскім і пяхотным агнём. Урадам захоплены склады аружжа „Чырвонай гвардзіі". Орган Леніна і большэвікоў „Праўда" зачынен.

У часі апошняй стычкі між казакамі і паўстанцамі ў поўгадзіны забіты 40 казакоў, ранены 130.

С прычыны таго, што шмат дзе суды спынілі сваю чыннасць, народ распраўляецца з ліхадзеямі самасуцам. Гэтак, на аднэй з акраін Пецярбурга грамада людзей разарвала на кускі нейкаго маладога чэлавека, катораго вінавацілі, бытцым ён нешта ўкраў с кішэні. Кускі цела кінулі ў канал.

ШТОКГОЛЬМ. Б. расейскаго глаўнакамандуючаго Алексеева Брусілов вызваў на фронт. Ен выехаў туды той час экстрэнным поездам.

Гэнэрала Гутора, б. начальніка разбітай расейскай арміі, вызвалі ў Пецярбург і аддалі пад суд.

ПЕЦЯРБУРГ. (Рэўтэр). Адмірала Вердерэвскаго, начальніка Балтыцкаго флота, арэштавалі за тое, што ён паведаміў раду матросау аб тайнай тэлеграме ураду.

Расейскіе банкі і цывільные ўласьці выехалі з Бродаў.

# З усяго сьвету.

ШТОКГОЛЬМ. Швэдзкі ўрад адмовіўся аддаць памяшчэньне парлямэнту дзеля социалістычнай конфэрэнціі.

БЭРЛІН. Агульны сход социалістычнаго выбарнаго саюза занімаўся справай учасьця социалдэмократаў у правіцельстве. Розные прамоўцы гаварылі, што, калі социалістоў прызавуць за міністроў ці статс-сэкрэтароў, дык яны павінны прыняць прэдложэные становішчы.

МАДРЫТ. (Гавас). Забастоўка ў капальняным окрузі Агійяс трывае далей. Забастоўка мэталістоў у Більбао часьцю закончэна.

АФІНЫ. Новы урад у абшырнай праграме тлумачыць адносіны між каралём і парлямэнтам. У гэтай праграме гаворыцца: кароль ня можэ распускаць парлямэнту толькі затым, што не згаджаецца з яго паглядамі. Не воля караля, а воля народу, вияўленая парлямэнтам, загадывае ўраду, якую трэба вясьці палітыку. Кароль — гэта толькі найвышэйшы ўраднік, чыннасьці катораго намечэны напярод. Ен — галава рэспублікі. Уселякае тлумачэньне спорных пунктоў констытуціі дае парлямэнт, а не кароль.

ЛЮГАНО. Грэцкі ўрад згодзіўся аддаць Салонікі пад тымчасовую сталіцу Сэрбіі.

# ТЭЛЕГРАМЫ.

**Нямецкіе апавешчэньня:**

**24.VII. Заходні тэатр:**

*Фронт Рупрэхта Баварскаго*: Артылерыйская бітва у Фляндры

---

вы и будучы Ягойла з Витолтом, и рознеможеся Витолт и умре, от цочатку сьвета шостое тысячы девят'сотного первого (?), а од Божого нарожения тысяшча чотыреста трыдцатого, месеца октобра 23 дня. А пан Сенко з паном Шедибором, з братом пана Скезгаловым, ехали з коруною з Рыма од папежа; а мешкали в Рыме тры годы длятого, иж валка была ве Влошех, и длятого не смели з коруною ехати, а вест' их зашла ве Львове о смерти в. кн. Витолта, што умер. I Ляхове, не жычучы коруны Литве и коруну в их тую отняли, и розсекшы ее на полы и прыложыли ко коруне бискупа Краковского, которая и тепер пры замку Краковском у костеле святого Станислава ест.

**З верша XVI сталецьця.**

Польска квитнет' латиною,
Литва квитнет' русчызною:
Без той в Польшчы не пребудеш,
Без чей в Литве блазном будеш.

**Прывілей каралевы Алены могілеўскім баярам Ільлінічам. 1506 г.**

Алена Божою милосию Королевая Польская, Великая Кнегиня Литовская, Рускзя, Жомойтская и инных.

Били нам чолом бояре могиловские, наймя Васько и Сидор и положыли перед нами лист небошчыка Великого Короля Казимера и в листе стоит штож тые бояре здавна, за Витовта, з местом и з волостию подачок и тяглей некоторих с ними не служывали, только служывали службою панцерною, на дорогу, где потреба. I били нам чолом абыхмо дали на то наш лист. Іно мы дали им на то сес наш лист, нехайбы они нам служыли службою панцерною, а пошлин и серебшчызны и подачок никоторых не надобе им платити з местом и з волостю, подлуг листу небошчыка Короля, Его милост Короля Казимера. Писан у Гродне.

## СТАТУТ
## Вялікаго Князьства Літоускаго 1529 г.

**О обороне земской.**

Уставуем с прызволеня рад нашых суполных и всих подданых, иж кождый князь и пан и дворанин и вдова также и кождый сирота, лета супольные маючы часу потребы с нами и с потомками нашыми, або пры гетманех нашых повинен войну служыти и выправляти на службу военную, колько бы коли надобе было подле уфалы земское, яко на тот час будеть потреба указывати, то ест з людей так отчызных як и похожых, з именя так отчызнаго как и выслужоного так купленого, кром хтобы от нас держал в заставе имене наше. Тогды тот з людей нашых повинен будет выправовати подле уфалы, которая на тот час будет' уставлена, пахолка на добром кони, штобы конь стоял за чотыры копы грошей, а на нем были панцыр а прылбица а корд и повеза а древцо с прапорцем. А который боярын або мешчанин не мает' у своем именицы так много яко устава будет', тот мает' сам ехати и служыти подле важности меня своего, а которы пан не мает ни одного чоловека тот мает сам ехати як могучы, або як за наглою гвалтовною патребою листом нашым Господарским поставлено будет', а на местцу наменованым, часу через листы нашы положоным мается очевисто ставити и датися шыховати и пописатися гетманом нашым на оный день который будет положен. А колибы колько брати не дельное, тогды с них годнейшый з именя их сумеснаго, один межы ними мает' войну служыти тым же обычаем как вышше поставлено. А тую уставу нашу подданые мают держати до десети лет.

